// # ДЗЯННІЦА

**Беларуская штотыдньовая газэта.**

**Выходзіць у Пітраградзэі, Кацярынінскі канал, дом № 72, 23.**

Падпісная плата: на 12 мсц — 4 рублі
на 6 „ — 2 „

**Асобны номір — 10 капеяк.**

**№ 6** **23—XII** **1916 году.**

*Пітраград.*

Часта прыходзіцца нам бачыць, як чалавек бярэцца за гэткую працу, якая, нам здаецца, зусім яму ні пад сілу; мы глядзім тады на напрасніка, смяйомся і кажым: „што ты робіш, браця? Няужо табе справіцца з гэтым? Пакінь — а то будзя с цябе сьмеху“. Мы сьмела і гарда кажым гэта, часамі ня ведаючы аб тым, што захавана у нутры гэтага сьмільчака чалавека, які бярэцца за ніпасільную працу ля сябе. Ня ведаючы і ні падумаушы аб тым, што раз чалавек узяуся за справу та ужо гэным йон паказау усім што справа яму знайома, свойска яму. I калі сілы у яго німа давясьці яе да канчатку, та досі ад яго і таго, што йон паказау як падступіцца к йой. Бо йон гэтым дау прыклад, прабіваць сабе дарогу. Мэта пачатку — гэта творачая сіла, гэта магутны спосаб на пуціня жыцьцявога поступу. Той, хто карыстая ім, той лічыцца тварцом — бо сама прырода даець яму талент. А раз чалавек выбіраяцца жыцьцьом і прызываяцца да тэй ці другой справы, та гэтым ясна паказываіцца нам, што уся вага хаваяцца дзесь даляй ат нашага вока. I калі мы сьмяімося с кагокольвек, лічым дарэмнай яго стратак сіл, та мы ставім сябе на няпачэсная мейсца, бо с працы, якая б яна ня была, сьмяяцца ні гадзіцца. Добрая праца — павінна патурацца намі. Праз яе мы можам лучыцца у таварыствы і грамадкі, пры ей мы можам зйауляць усю карысьць нашага жыцьця. Працуючы па сіля магчымасьці, мы павінны зваць усіх к таму. Той, хто бярэцца, хто толькі бярэцца за трудную справу, йон ужо, апроч таго, што даець нам пачэсны прыклад, а і зароджвая гэтым у нас ахвоту да працы і зганяя страх перад ціжярам яе. Многія людзі, шчэ ня узяушыся за тоя ці іншая дзела, у перад хочуць уверыць сябе і другіх, што ім ня зрабіць сяго, што яны ні мочы ні спасобку ня маюць. Такія людзі часткай гультаі, часткай малаверы. Яны бяз вядома сабе цэняць сябе перад другімі.

Ня станавемся ж мы імі. Ня страшэмся працы. Працуйма. Праца любіць жыцьцьо, — пры працы мы яго зйасніць толькі і можам.

*Д. Ж—ч.*

---

Скора ці ня скора алі вайна кончыцца некалі. Тыя сіляня, каторыя асталіся з ласкі вайны бяз нічога, — неякжа мусюць распачаць разжываццa на голай зямлі і нажываць усьоусякая для гаспадаркі. Насамперш трэба падумаць — дзе прытуляцца, дзе схавающа на голай зямлі ад дожджу, ад холаду, ад ветру? Трэбаж ім насамперш буда-

ваща, а ціж змога усей вьосцу у адно лета? Скуль грошы мець і дзе майстроу столькі дастаць — сколькі трэба будзіць адразу посьля вайны? Дзе матэрыялу столькі дастаць адразу сколькі трэба будзіць — дошчак, цэглы, клямак, завес, кручкоу? Народ сам — пацярпеушы — нічога гэтага цяпер ні запасіць, бо заняты найгоршай бядой — гэта выжыць як небудзь, каб сіл сусім ні страціць.

А хтож заняты работай назапасіць усяго патрэбнага да забудовы зруйнаванага вайной краю?

Хіба ніхто. Неяк — трошкі аж дзіуна — блізка усе добрага сэрца людзі сколькі могуць дык толькі для сягоняшняй патрэбы бедных стараюцца, а аб тых вялікіх патрэбах, якія ужо знаць што будуць посьля міру, як кінуцца людзі нікаторыя можа і піхатой на сваю зямельку,— дык... нешта ня чутно каб хто кінуу думкі ды каб за дзела узяуся.

Ой, я баюся, што шмат грэху на душу інтэлігенціі, на душу святлейшых грумадзян падзець, калі загадзя, цяцер ужо калі ня возьмуцца назапасіць матэрыялу патрэбнага да адбудовы зруйнаваных вьосак, сьол, мястэчак, гарадоу.

Насамперш трэ ужо залажыць тэхнічную і будоуляную кантору, куды трэба каб пашлі усе здольныя да таго працаунікі — усе тыя, што жычуць сабе відзіць свой край пякнейшым як быу, і тыя што хочуць у гэтым дзеля прыслужыцца і самі ці то працай ці пазычыушы у кантору грошы.

Добра былоб паставіць тартак і загатауляць дошкі, дзьверы, рамы на вокны, вушакі.

Добра былоб пабудаваць дзе на выстауку, для паказу пабудаваць нескулькі найлепшай формы дамоу для сілян, каб людзі мелі на што паглядзеушы будаваць сабе падобныяж добрыя дамы.

Дык німа што адкладаць, а трэба заразжа нарадзіцца і за дзела брацца.

Агроном *Д. Д.*

---

## Бацькава воля.

Раман *Ц. Гартнага.*

Часьціна першая.

6.

Лажучыся, Зося зусім не хацела спаць і мо цэлую гадзіну варочалася на пасьцелі: ей рабілася перш неяк душна і млосна, і яна здымала з сябе дыван, рашпільвала на усе гусікі сарочку. У галаве снавалі цьомныя, незйасньоныя думкі, у вачах луналі мары. Калі знятая апранаха не злегчвала душнаты і утомы, яна падымалася с пасьцелі, падыходзіла к вакну, прачыняла яго крыху і чакала, пакуль халадок ня пройдзя целам. З надворку цягнула свежым, льогкім і апойным паветрам; Зосі рабілася льогка і падыходзіу сон.

Можа а другой гадзіні ночы Зося адышла апошні раз ад вакна і лягла на пасьцель, каб заснуць. Праўда, сон яе уже пільнавау і толькі што яна сцішылася, як разам ахапіу яе і апутау сваімі крэпкімі лыганымі кайданамі. Зося упойна і смашна заснула і нават неаглядзілася як шпарка прамчалася ноч.

І вось, калі толькі яе маці назаутра стала будзіць, ей так ні хацелася уставаць, так цяжка было раставацца с пасцеляй, што здавалася ей — яна німа ведама што-б дала за лішнюю часінку, за адзін квадранец, каторы-б ей пазволілі праспаць.

Але нельга было нічога зрабіць: трэ было прачынацца і уставаць; і Зося, пацягнуушыся, пазяунуушы разоу с пяць, швыдка саскочыла с пасьцелі, барджэй памылася, апранулася і пачала збірацца у поля.

# Крыху аб долі Беларусі.

«Эй доля! Сколькі мы разоу
Прасілі, клікалі цябе, —
Ня йдзеш! Знаць хтосьці
з свету звьоу,
Ці хлеба мала у нас табе?

* * *

Ні да прошлага жыцьця Беларусі песьняр свае словы кіруя. Не! Нашы прадзяды ня клікалі долі — яны яе ні зналі: у зьдзеку і горы яны ціха праходзілі жыцьцьо свайо. Іх князі і баяры пашлі у прочкі, выракліся сваго народу.

Народ сам сабе пакінуты, бяз правадыроу, бяз вучыцяльоу, ня мог думаць аб долі — гора яму настала! Мала што цьомны, пакінуты, але пад уласьць сільных адданы, народ наш цярпеу паніжэньня, пагарду — йон паншчыну знасіу, аб доліж сваей нат' і думаць ня сьмеу. Дык прадзяды нашы ня клікалі долі — яны яе ні зналі.

* * *

На лепшыя дні, на сьвятлейшыя песьняр увагу нашу зьвяртая. Вось у другой палавіня XIX сталецьця сыны нікаторыя ня уцерпілі, каб іх Маці такоя гора зносіла. Вінцук Марцінкевіч у роднай мові цешыць братоу Беларусау, а тых, каторыя іх топчуць і пагарджаюць, кліча — каб злітаваліся, каб кінулі зьдзек. Прауда, крыху палягчэла Беларусі, — прашла паншчына.

І гэта быу пачатак пакорнай просьбы долі, каб яна прышла да Беларусі, ды яе ні пакідала. Алі знаць хтось долю нашу, як песьняр кажа, — са свету звьоу, ці мо хлеба у нас было ей замала, бо янаткі ня прыходзіла. Прауда, — паказалася, але зноу згінула. Горам спавіта ішчэ была родная старонка.

* * *

А вось — у тым самым XIX сталэцьці пачынаюць блукацца па Эуропе думкі аб адраджэньні народау аб іх прасьвеця, развіцьцю. Гэтыя думкі пападаюць і на нашу ніураджайную ніву і з трудом зачынаюць прарастаць.

---

Хоць было шчэ зусім рана, але Міколы ужо ня было у дому: йон рускатурхауся з досвітку і задауна да у сходу сонца атправіуся у Масткі карчаваць пасіку, каб пасьпець к восяні яе згатовіць пад жыта. Зосі самой прышлося збегаць на прыгумень па каня, прывясьці яго на двор, запрагчы, прыгатовіцца якрас і ехаць у поля. Усьо гэта ей было занатта знаймая работа зусім ні страшная: старанна і сьпешна яна збегала на гуменьня, прывяла на двор каня, запрагла яго у нарад, сама узлажыла плуг і забрала усе прылады; запаслася лустаю хлеба і кавалкам пячэні, ды атправілася у поля.

Дарога, кудыю Зосі трэ было ехаць, выходзіла із Сілцоу ікрас с тае самае Сівулінскае вуліцы, на якой яна жыла і на каторуй, ганоу на двоя ад іх хаты, туды пад поля за горкай, стаяла Васільова хата. Зосі ні раз і ня два ужо траплялася праежджаць гэтай дарогай і кожын раз, каліб яна ня ехала, як на прымху, яна спатыкалася з Васільом, каторы або стаяу ля сваіх вешніц, або глядзеу у вакно, і кожны раз няйначай уздымау першы гутарку і вымушау Зосю гутарыць з ім нейкі час.

Зося думала, што і на гэты раз ей ні абыйсьція, каб ня стрэціцца з Васільом — які — каб на яго усьо ліхое — няйначай падпільнуя яе, спыніць і пачне вязацца у вочы з сваімі ачамерными запытаньнямі і надаедными приставаньнямі. Да к гэтаму яшчэ так ніякавата вышла учора між імі пры развітаньні, што ня толькі гаварыць, а і убачыцца неяк сорамна. І Зося, падйэхаушы к Цімкавуй хаці, дзе пачынауся уклон, злезла з воза,

І тыкеля у 1905 гаду бачым рунь ăбыйшоушаю, чуім голас песьняроу каторыя долю клічуць. І яна ужо пачынала зьліжацца.

Але нідайшла! Прыходзіць год 1914, прыносіць буру агністую, каторай полымя абхваціушы блізка усю Эуропу прадзіраіцца у Беларусь нішчасьлівую і тут пустошыць ня толькі зярньо маладоя дзеля лепшай долі пасеяная, але ішчэ і глыбейшыя шкоды робіць. Бура гэта дальока ад нас долю адганяя.

Агністая гэта завяруха надварушыла Беларуса веру, яна парабіла шырокія рытвіны, шырокія калдобіны у ягоным жыцьці моральным. Словам, вайна псуець тоя, што йосьць зародкам нацыональнага жыцьця. Яна долю нашу адганяла.

Мы відзім гэтыя нішчасьця, відзім гора Беларусоу, але за апекавацца імі, аблягчыць іх ціжар у нас сіл німа, бо німа жыцьця народнага. Чужынцы братоу нашых бяздольных да сябе туляць — з жалю, а яшчэ часьцей для сваей карысьці. А мы? мы глядзім да уздыхаім, мы братом сваім гаротным пасабіць ня можым, — мы — бяздольныя!

* * *

Дык ганімося за доляй, прасімо яе, каб прышла ды асталася у нас. Шчыра абяцуйма, што збудуім для яе палаць вялікі, прыгожы, на народнай беларускай падмуроуца, убяром яго краскамі асьветы, дабра, ды хараства праудзівага.

Дык будуйма, браты, гэту народную будыніну! Бо доля тады тыкеля ахвотна да нас прыдзя, калі убачыць, што мы дзеля яе працуім, яе жадаім, бо тады тыкеля: „сонца навукі скрось хмары цьомныя прагляне над нашаю нівай, і будуць жыці дзеткі патомныя добраю доляй, доляй шчасьлівай.

*АСт.*

* * *

Цесна сэрцу у грудзях,
Як арлу у клетца:
Усьо на нейкі новы шлях,
К новым зорам рвецца...

*Пр—к Красоускі.*

---

узяла каняку за аброць і павяла зусім у другі бок, на вулачку, якая перасекала гароды мешчан і служыла прагонам. Гэта вулачка таксама выводзіла на палеткавы гасьціняц, так і тая дарожка, што ішла між Васільову хату, толькі ганоу са двоя трэ было зрабіць лішніцы. Зося згадзілася на апошняя, абы толькі ня наткнуцца сеньні на Васіля. Звьоушы каня з горкі с пад Цішкавы хаты, яна напаіла яго у студні, падправіла хамут і набэдры і пагнала трухам. Жыцьцьо ужо усюды кіпела: на гародах бабы садзілі і палівалі расаду, нікаторыя ужо варочаліся с поля і няслі мяшкі, паунюсянька набітыя травою. З выгану данасіуся рэзвы зык пастуховай трубы і чууся гдзесь на гуменьнях атчаянны брэх сабак. Пагода выдалася цьоплаю, пекнаю: чыстая, ня зусім высокая неба, як дарагі блакітны дыван, абвісала над радаю вызвеваючаю зямльою. Ранняя, чырвонная сонца шчыра грэла, папіваючы сваім смагным праменьням спаушую ноччу сярабрыстую крысталовую расу.

Зося хоць пашльопвала каня пугаю і бязсціханьня паноквала на яго, патом ехала ня шпарка і патрабавалася цэлая гадзіна часу, пакуль яна прыехала на мейсца орыва, у Пташнік.

Прыехаушыж к сваей паласе нівы, яна спыніла каня, злезла з воза, пастаяла крыху ды палюбавалася, потым пачала збірацца к ворыву: развязаушы спутаныя пастронкі і зняушы з возу плуг, яна упрагла у яго каня, шчырасна тры разы перажэгналася і упусціла плуг у землю.

Каняка быу смірны і ціхі і к пахаці прывычны: хоць малому дзі-

## Бяздомны.

Пірад Калядамі бывала, як распусьцюць вучняу са школ дамоу на усьо Сьвята, Антось Адамчыкау, з Навіны, меу куды паехаць да сваіх. Цяпер свае пад немцам, а йон апынууся у Піцяры на навуках. Нудзіцца йон тут па сваіх, бо аніякай вестачкі ад іх ні маіць. І ось Каляды надходзюць а німа куды яму да сваіх удацца, каб хоць Куцьцю са сваімі спажыць.

Надойчы вечарам натта яму нудна стала тут аднаму ад радні, аж сьлозы наляцелі на вочы. Бо тут прыпаміналася усьо яму куцьця у бацькоу...

Матка за дзень нагатовіла усьо што для куцьці. Бацька натрос у запас на усьо Сьвята трасянкі для кароу, наладзіу санкі к заутраму у Дом Божы ехаць. А падвечар вышау сабе закінуць корму скацінца нанач, ды усьо паглідаіць на неба ці паказалася калядная зорка. Аж угледзіу. Ідзець у хату, нясець ахапак сена і хваліцца, што сьвята ужо заступіла, што трэба работу канчаць ды за куцьцю садзіцца.

Разлажыушы сена на стале накрыла мама стол чысьцянькім абрусом і давай ставіць на стол ежу. Тады кругом сталà заселі усе у хаця паглідаючы на стол і на тату. Аж той раптам устау і усе за ім. Йон піражыгнауся — і усе за ім,— і сталі маліцца слова у слова за бацькам кажучы: Война наш нябесны! Сьвятоя нам Твайо Імя! Прагнім Твайго у нас Каралеуства. Пажыдаім Волі Тваей тут якая й на небя. Просім нам хлеба што нашдзень то й на сягоньня. А тоя чым мы завініліся дараваць нам просім як і мы даровываім хто нам завініуся. Ні напушчай нас на пакусу алі крый нас, Божа, ад грэху.

Кончыушы гэну малітву адазваўся бацька да усіх за сталом.

— Помніцяж, што заутра сьвяткуім успамін прыйсьця на сьвет Божы Спаса нашага, Хрыста, даушага нам навуку — як мусім па боскаму жыць на сьвеця, каб стацца доб-

---

цяці дай яго, дык і тоя справіцца з ім. Вось і Зося так любіла свайго вернага Гнедку, што наурад, ці магла б калі прывыкнуць к другому каб гэта хто схацеу у яе адняць гэтага.

— Но-о-о! Но-нно! — час от часу выкрычвала Зося, паважна праводзячы роуную шырокую баразну; але заусім ня затым, каб ніхто ня падумау, што Гнедка ленавауся і капырсціуся у плузя, ці ціха ішоу, ці убакі рвауся, робячы агрэхі. Не, і не. Зосі проста ні хацелася быць нямой, маучлівай — вось яна і паноквала за гэтым. Гнедка клыпау мерным, цьвордым шагам, як тоя і патрэбна, а Зося весяла і здавольна ступала свежаю каляінкаю, ачуваючы у падошвах прыятны халадок і пакідаючы за сабою выразна адбітыя слядкі ног; грудзямі яна зьлогку упірала на дзержаньне плуга. Цягнула свяжыстым вятрыскам, які зьлогку абдавау яе шчокі і трапау распушчаныя косы, павылазіушыя с-пад новай чысцянькай хусьцінкі і расплыушыя па плячам.

Правьоушы некулькі бараздзьон, Зося спынялася, прысядала на мяжу спачынуць і, сеушы, подаугу глядзела та на сонца, та на цень, якую змерала, каб вылічыць, якая пара і колькі удалося да гэтага узараць.

Паусьом палетку, куды яна ня глядзела, відны былі людзі; якія то аралі, то баранавалі, то вызбіравалі каменьня па нівах. Зусіх бакоу даносіліся вясьолыя напевы родных вясковых песянь, а з Масціцкай пасякі чууся стук сякер, гулкі гоман і покатны рогат карчоунікау. Зосяп рыслухвалася к усяму, стараючыся улавіць кожны зык, і ей вельмі мілым здавалася усьо гэта.

(Далей будзя).

рымі сынамі Божымі.

Дзьля гэтага насамперш мусім быць у згодзя між сабой, любіць адзін аднаго — як і кажды сябе самаго. Калі хто на каго крыуду ці гнеу маіць дык сягоньня пірад заутрашнім вялікім сьвятам усяго гэтага забыцца мусіць на заусьоды і са сваім праціунікам пагадзіцца мусіць. Вас за усьо благоя ад мяне пірапрашаю усіх; выбачайця мне, і я Вам усьо выбачаю.

Дай Божа надалей каб мы лепі жылі і сусім бяз крыуды і гневу...

Мама заплакала з нечага, а усе дзеці кінуліся у рукі маму і тату цалаваць, а тады абняліся бацькі, разцалаваліся, і селі за яду.

Пачалі з „куцьці" — з кашы із сытой. А тады пашлі сілядцы із сырой капустай і рыбка, бліны з цэду на алею смажаныя, поліука із грыбамі, кісель журавіновы і кісель аусяны, гэты астатні елі у сот з мьоду мачаючы...

Такія „салодкія" думкі праляцелі праз галоуку Антося Адамчыкавага, — чуць йон ні аблізнууся, алї апомніушыся — уздыхнуу моцна, і залыпау вачыма каб ні заплакаць.

— Но, — яшчэ раз уздыхнуушы сказау, — дасьць Бог гэтак дрэнна ніколі больш ужо ня будзіць!

*В Атрахімовіч.*

## Зіма на вайне

Вые вецір, галосіць і плачă;
Пад акном гурбы сьнегу узьмяло;
У полі Божага сьвету ні убачыш;
З мутным небам зьлілося сяло.

Посьля ночы страляць пірасталі,
Ні дрыжаць у будынках вуглы,
І асколкі жалеза і сталі
Ні зьвіняць сярод мутнай імглы.

Толькі вецір так злосна, няміла
Круціць сьнегам, шуміць і раве,
Завеваіць акопы, дзе сіла
Дзе уся моц і адвага жыве...

*Тодар Ч.*

## МЕЖКІ.

Вузкія — як ніткі, зяльоныя —
як руць,
К лесу дзесь дальока, бы каму
у дагон, —
Межачкі лахматыя, рэжучы загон,
Між ралі пажоуклыя весяла бягуць.
Там пры касагору, адзе белы плот,
Здэцца у папярочку, на каслівы
крыж,
Як за іх ты бегам воддаль паглядзіш—
Збегліся сямйою на руплівы сход.
Сам пабег бы сдэцца, с межкамі
туды —
Каб быу добра пэуны, што пры
лесе том
Ні спаткнуся раптам з новым
варагом —
Мала спадзяванай новае бяды..

*Ц. Гартны.*

# Думкі да граматыкі.

6.

Дабіваючыся больш-меньш аднальковага способу пісаньня па беларуску, маю на мысьлі тоя, што сусім чыста фонэтычна пісаць нельга, бо ні стаець пісьменных знакау, ні стаець літар такіх — каб азначаць тыя ніясныя гаманкі, якія пападаюцца у гутарца. Вотаж прыходзіцца або апушчаць іх са слоу пішучы. або азначаць, алі як?

Дагэтуль кажды па свойму рабіу, затоя адно і тояжсамая слова чатырмя способамі пісалася

панакошвау — падпісвау
пакошывау — падпісывау
панакошэвау — падпісовау
панакошавау — падпісавау.

Найлепшы способ пісаньня той, каторы апушчаїць ніясны гаманỏк, бо чытаючы тоя мейсца дзе ністаець літары для ніяснага ґаманка кажды здагадаіцца усьожткі як той склад і усьо слова прачытаць.

Алі ніусягды пасуїць да складу апушчаць на пісьме ніясныя гаманкі і прыходзіцца задумляцца — якая больш надаецца літара азначыць такі ці сякі ніясны ґаманỏк.

Вотаж майо прақананьня такоя, што ніясныя гаманкі трэба азначаць ні наугад, а памяркавaушыся са способам пісаньня іншых падобных слоу, — каб выдабыць посьля удалоя для граматыкі правіла пісьма.

Мяркуючыся так наглідаім, што нікаторыя словы напэуна канчаюцца так: —ывау, —івау:

адкрывау — ваївау.

Гэта у такіх славах, каторыя у асновя сваей маюць „ы“ ці „і“ (жыць, адкрыць, біць, вайна).

Таксама выпадаіць пісаць:

панаплъовывау — абклеївау
падкурывау — выкроївау
падпісывау — расхвалївау
раскладывау — пакрыкївау
падсушывау — высьмеївау.

А ось іншыя словы канчаюцца так: —аваць, —авау

гадавау — гадаваць
начавау — начаваць
галасавау — галасаваць.

Адружняць гэтыя ад гэных во як трэра:

падпісаць—падпісываць—падпісывау
падшыць — падшываць — падшывау
падкідаць—падкідываць—падкідывау
паіць — споіваць — споівау
гадаваць — гадавау
начаваць — начавау
закалекаваць — закалекавау

Маючы сабе гэта для нагляду— здаецца ось і разгадка льогкая, нічога мудронага гэта разгадаць. Яно так і сапрауды, — належылася толькі троху прызадумацца і ні былоб гэта такой ніудачы — каб чатырмя способамі пісаць адно і тояжсамая слова.

Таксама здаецца льогкай павінна паказацца здагадка — які канчатак пісаць у славах:

бераг — паліц
перац — заїц
Павал — попіл
кужаль — месїц
катар — дзевїр
вечар — венцір
горан — човін
сьвіран — язьмін
кубак — камінь
ганак — коцік
горак — довіг.

Адразу знаць, што калі канцавы склад слова мяккі дык у ім на мейсцу ніяснага мяккага гаманка належыцца пісаць „і“, а калі канцавы склад слова цьворды — дык у ім на мейсцу ніяснага гаманка належыцца пісаць „а“.

*Акцьуб.*

(Далей будзя).

## Навіны.

У Гасударскай Думе камісія аб людзкой асьвеця пастанавіла назначычь жалаваньня настаунікам народных школ па 50 руб. на м-ц. Дэпутат Розанов (трудавік) радзіў даць па 75 руб. на м-ц, алі на яго раду ні згадзіліся другія.

У Царыцыні тамтэйшая інтэлігенція сабрала між сабою 100.000 руб. грошы каб мець „народны дом“, дзе можна будзіць праваздзіць вольны час у добрай кумпаніі і на добрых забавах.

З Амэрыкі вярнууся літоускі дэпутат Ічас, дзе йон зрабіу „Літоускі дзень, у які сабрау для помачы пацярпеушым ад вайны літвінам больш двух мілійонау рубльоу грошы. Сам амэрыканскі прэзыдэнт памагау яму у гэтай справе, напісау нават пісьмо да амэрыканцау, узахвочываючы даць складчыну на помач літвіном.

## З Вільні.

Даходзюць весьці, што у Вільні выходзіць беларуская газэта „Гоман“. Ні пазвалялі сьпірша немцы друкаваць яе рускімі літарамі, дык друкавалася лацінскім альфабэтам, а цяпер дабіліся там беларусы — каб друкаваць рускімі літарамі.

Шмат правадыроу беларускага руху пакінулі Вільню летась, уцікаючы ад немцау, дык астаушымся шмат работы выпала, бо і газэту і кніжкі беларускія выдаваць трэба, і беларускія школы закладаць і навуку даваць трэба, і у грумадзянскіх таварыствах працаваць трэба і пірад начальствам хадайнічаць трэба.

З паміж тамтэйшых беларускіх грумадзянскіх працаунікоу зьморла сьолíта паэтка. Л. Пашкевічышка, усімі званая „Цьоткай“. Гэта яна улажыла „Першае чытаньне для дзетак беларусоу“ і кніжку „Скрыпачку“. У № 1 „Нашай Долі“ (1—IX—1906 г.) самы першы верш — гэта яе — „Мацея Крапіукі“. Страта з яе — гэта вялікая страта для Беларусоу.

## Вайна.

За астатнія часы пірамен вялікіх німа.

Найбольш гутаркі цяпер — гэта з прычыны „нямецкай“ згоды да міру.

Гэтым часам і амэрыканскі прэзыдэнт ад сябе напісау да усіх, хто ваюіць — каб даведацца на чым астаноука за мірам.

Са стараньням каб замірыць вайну удаюцца і другія гасударствы.

Палітыкі кажуць, што цяпер мірыцца ні час, бо пачыкаушы да вясны дык немцы сусім паддадуцца, бо ужо досьць страху ад голаду у іх, а пад вясну сусім будзіць дрэнна.

Рäдактар-выдавец Д. Жылуновіч.



«Русско-Французская Типографія». Петроградъ, Офицерская, 6.